


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 34(44) ● 9—15 КАСТРЫЧНІКА 1991 г. ● Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)

## Поступ тыдня

**ПАГАДНЕННЕ АБ СТВАРЭННІ ЭКАНАМІЧНАГА СУПОЛЬНІЦТВА СУВЕРЭННЫХ ДЗЯРЖАЎ ЗАКЛЮЧЫЛІ ДВАНАЦЦАЦЬ РЭСПУБЛІК (ЗА ВЫКЛЮЧЭННЕМ ЛАТВІІ), ЯКІЯ ЗБІРАЛІСЯ ЗА «КРУГЛЫМ СТАЛОМ» У АЛМА-АЦЕ.** Рэспубліка Беларусь — яе дэлегацыю ўзначальваў В. Кебіч — выказалася за пагадненне адна з першых. **ПАДПІСАНЫ ТАКСАМА КАМЮНІКЕ АБ ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА, СТАБІЛІЗАЦЫІ МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫХ АДНОСІН, АБ ПРЫХІЛЬНАСЦІ ІДЭІ РЫНАЧНАЙ ЭКАНОМІКІ.** І ўсё ж палітычныя рознагалоссі паміж рэспублікамі не даюць поўнай упэўненасці ў падпісанні эканамічнага дагавору.

**ПАРЛАМЕНТ БЕЛАРУСІ** прыняў пастанову аб прызнанні права прыватнай уласнасці на зямлю. Яшчэ не так даўно той жа састаў парламента праект такой пастановы катэгарычна адхіліў.

***НА 15 КАСТРЫЧНІКА ПРЫЗНАЧАНА ЧАРГОВАЯ СЁМАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ. СЯРОД ІНШЫХ ПЫТАННЯЎ ЯНА АБМЯРКУЕ ПРАЕКТ НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫІ БЕЛАРУСІ І ЛЁС СВЯТОЧНЫХ ДЗЁН.*** *Ёсць прапанова святкаваць, як і раней, Новы год, 8 сакавіка, 1 і 9 Мая, і далучыць да іх Ражство Хрыстова (7 студзеня), Дзень Рэспублікі (25 сакавіка), два дні Вялікадня, Дзень незалежнасці (27 ліпеня), «Дзяды» (30 кастрычніка), каталіцкае Ражство (25 снежня).*

**У МЕНСКУ ЗАКОНЧЫЛАСЯ МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «РОЛЯ АРМІІ Ў ГРАМАДЗЯНСКІМ ГРАМАДСТВЕ».** Яе вынікі дапамогуць у рэформе ўзброеных сіл, якая рыхтуецца. Ставіцца, напрыклад, пытанне аб тым, каб увесці ў арміі інстытут духоўных настаўнікаў і поўнасцю яе дэідэалагізаваць. **ІШЛА ГАВОРКА І АБ ПЕРАНАСЫЧАНАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ ЯДЗЕРНЫМ УЗБРАЕННЕМ — ТОЛЬКІ РАКЕТНЫХ ВОЙСК СТРАТЭГІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ ТУТ ЗНАХОДЗІЦЦА, ЯК СТАЛА ВЯДОМА, АЖ ТРЫ ДЫВІЗІІ.**



Вакальны ансамбль «Званочкі» менскіх школ №№ 156, 159 (кіраўнік — кампазітар Валянціна Васільеўна СЯРЫХ) выступаў у розных гарадах краіны, быў за мяжой. У рэпертуары калектыву — песні на словы беларускіх паэтаў.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

*Данута*

*БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА*

## МАЦІ МОВА

Маці Божая Чыстае Моцы,
усеправідная воля Твая,
уздымі беларускіх маці
над галовамі гадаўя.

Прывітаная ва ўсіх мовах,
міласэрдзем сагрэўшая ўсіх!
Уздымі атупелагаловых
хоць на ўзровень сябе саміх.

Толькі тут маці Мову душаць,
да пякельнае прорвы дайшлі.
Уздымі іх адсутныя душы
да Маці Малітвы Душы.

Уздымі іх да мовы птушкі.
Над маўкліваю пасткай пастой,
дзе маці смяецца з дачушкі,
як шчабеча на Мове Святой.

Ускалыхні іх нутро нямое,
у лядоўні-сэрцы ўвайдзі,
каб Маці, Малітва, Мова
атрымалі статус адзін.

20.09.1991 г.

## Прывітанне з Кліўленда

Змагарнай газеце «Наша слова», яе барацьбітам-супрацоўнікам, шаноўным аўтарам і чытачам, усім прыхільнікам нашага роднага слова вялікае прывітанне ад кліўлендскага часопіса «Полацак».

Вашае слова — гэта слова сумленных Беларусаў, у якіх душа баліць за нашую мову, за наш народ. І таму мы, нават за акіянам,— разам з Вамі. Чытаем, верым і любім Вас.

З павагай рэдактар часопіса Святлана БЕЛАЯ.

Кліўленд, ЗША.

## Янка Золак — госць рэдакцыі

5 верасня рэдакцыю наведаў беларускі паэт у эміграцыі Янка Золак (Антон Даніловіч), які жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. Родам ён са Случчыны. Да вайны працаваў у школе настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. У канцы вайны эмігрыраваў у Нямеччыну, а адтуль у 1951 г. у Злучаныя Штаты. Працаваў на трыкатажнай фабрыцы, а ў вольны час пісаў беларускія вершы. Друкаваўся ў замежных беларускамоўных выданнях «Беларуская думка», «Беларус» і інш. Яго творы можна было знайсці і на старонках нашых беларускіх часопісаў «Полымя», «Маладосць». У 80-х гадах выдаў зборнік вершаў у 2-х тамах пад назвай «Творы». Апроч таго, выйшлі яго дзве невялічкія кніжачкі, зборнікі гумарэсак «За чужы грэх» і «Падкашнічак».

Сёлета Янка Золак ахвяраваў Таварыству беларускай мовы імя Ф. Скарыны 500 долараў на выдавецкую дзейнасць Таварыства.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Вучымся!*

## БЕЛАРУСКІ ТЭХНАЛАГІЧНЫ ВЯРТАЕЦЦА Ў ... БЕЛАРУСЬ

*Каб не было непаразуменняў, адразу растлумачым: Беларускі тэхналагічны інстытут вяртаецца не з якой-небудзь эвакуацыі. Ён робіць першыя прыкметныя крокі па беларусізацыі вучэбнага працэсу.*

У ЧЫМ сутнасць першых крокаў, што канкрэтна зараз адбываюцца ў адной са старэйшых ВНУ рэспублікі? Аб гэтым гутарка нашага карэспандэнта з гасцямі рэдакцыі — дырэктарам створанага пры інстытуце універсітэта беларускай мовы, гісторыі і культуры доктарам тэхнічных навук Аляксеем Андрэевічам Саламонавым і загадчыкам кафедры беларускай гісторыі культуры, асноў эканамічных ведаў кандыдатам гістарычных навук Паўлам Васільевічам Дзядзюлем.

**— КАР.: Шаноўныя спадары, прыемна, што створаны ў вашым калектыве універсітэт мовы, гісторыі культуры, але цікава ведаць, як у цэлым складваюцца ў інстытуце справы з адраджэннем роднай мовы?**

— **П. ДЗЯДЗЮЛЯ:** Прызнацца, і ў нашым інстытуце Закон аб мовах ажыццяўляецца вельмі марудна. Хаця ў клопаце пра беларусізацыю вучэбнага працэсу нашаму кіраўніцтву не адмовіш. У прыватнасці, рэктару БТІ І. Жарскаму. Але ж пагадзіцеся: няпроста ажыццявіць у адзін час пераход выкладання ўсіх дысцыплін з расійскай на беларускую мову, калі ніхто не рыхтаваў адпаведнай базы.

**— КАР.: І ў чым галоўная праблема?**

— **А. САЛАМОНАЎ:** Справа, на мой погляд, не толькі ў адсутнасці тэрміналогіі па большасці спецыяльных дысцыплін, якія выкладаюцца ў інстытуце. Павінен адбыцца ў людзей яшчэ і нейкі ўнутраны зрух. Таму, ствараючы пры інстытуце своеасаблівы універсітэт беларусістыкі, мы і мелі на ўвазе не толькі выкладанне роднай мовы, але і выхаванне ў людзей зацікаўленасці да беларускай культуры, да гісторыі роднага краю наогул. У праграме навучання — лекцыі вучоных А. Грыцкевіча, М. Ермаловіча, Я. Сахуты. Дамаўляемся з М. Ткачовым, А. Трусавым. Спадзяёмся, што дзякуючы іх грунтоўным ведам і пранікліваму, шчыраму слову абудзіцца ў слухачоў нацыянальная свядомасць.

**— КАР.: Раскажыце, калі ласка, пра парадак, арганізацыю працы ва універсітэце. Мажліва, ваш вопыт некаму спатрэбіцца.**

— **А. САЛАМОНАЎ:** У нас заняткі разлічаны на адзін год. Набрана пакуль адна група. Але пасля першых лекцый да сталых слухачоў далучаюцца ўсё новыя і новыя. У верасні, калі асноўная маса студэнтаў працуе на ўборцы бульбы, выкладчыкі займаюцца штодня па шэсць гадзін. У далейшым столькі ж гадзін, але ўжо раз на тыдзень. У пару ж зімовых вакацый — ізноў штодзённыя заняткі, на завяршэнне працы — своеасаблівыя экзамены. Уся праграма навучання займае 800 гадзін.

— **П. ДЗЯДЗЮЛЯ:** Хачу назваць прозвішчы выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры Н. Савіцкую і Р. Міксюк. Дарослым людзям пачынаць вывучэнне мовы значна цяжэй, чым, скажам, падлеткам. Значыць, і дапамагаць ім трэба больш, прычым тактоўна. І нашы мовазнаўцы не пашкадуюць ні сіл, ні часу, каб дапамагчы сваім навучэнцам. Больш таго, імкнуцца ўводзіць слова праз спектр спецыяльнай тэрміналогіі прадметаў, што чытаюцца ў інстытуце.

**— КАР.: У інстытуце, наколькі я ведаю, больш за 300 выкладчыкаў. А ў год вы бераццеся перападрыхтаваць усяго толькі 30—40 чалавек...**

— **А. САЛАМОНАЎ:** Прабачце, але ж не такія ўжо ўсе ў нас «цёмныя», не такія адарваныя ад беларускага слова. Іначай не было б ў нашым інстытуце вялікай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны ды і самой ідэі універсітэта для выкладчыкаў. Паверце, многія і зараз ужо гатовы чытаць лекцыі студэнтам на беларускай мове. Але ж адсутнічае сістэматызаваная беларуская тэрміналогія тэхналагічных дысцыплін.

— **П. ДЗЯДЗЮЛЯ:** Тым не менш мы не чакаем «дзядзьку з Кіева». Тое-сёе робім ужо зараз. Вось, да прыкладу, кандыдат хімічных навук Яраслаў Генрыхавіч Міляшкевіч сам складае беларускі слоўнік па хіміі. Думаю, што з часам выкладчыкі іншых дысцыплін таксама за гэта возьмуцца. Галоўнае, каб рабілася ўсё людзьмі кампетэнтнымі, ну і, вядома, чулымі да роднага слова.

Распытваў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*З рэдакцыйнай пошты*

# Абавязак усіх — і ўрада, і грамады!

У адным з нядаўніх нумароў «Нашага слова» быў артыкул пані Л. Баршчэўскай аб слоўнікавым стане ў Беларусі. Ён варты жалю, гэты стан. Але ў артыкуле не ўзнята пытанне: а чаму ўсё ж дзяржава не клапоціцца пра забеспячэнне грамадзян слоўнікамі? Усялякімі. Відаць, у прынцыпе — не дзяржаўная справа дбаць пра слоўнікі, але ва ўмовах Беларусі гэта мусіць стаць клопатам урада. Захады тут павінны быць самыя неадкладныя.

Зусім абыдзены ўвагаю лексікографаў дзеці. Для іх таксама няма годных слоўнікаў, як і займальных пазакласных «чытанак» на беларускай мове.

Таксама трэба неадкладна ўзняць пытанне пра стварэнне бібліятэкі замежнай літаратуры ў Беларусі.

І яшчэ. Варта ўвагі і неадкладнага вырашэння стварэнне фанатэкі беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Дзе ёсць запісы галасоў Я. Купалы, Я. Коласа, нашых эмігрантаў-паэтаў? Ва ўсім свеце выпускаюць плыты з галасамі паэтаў, што чытаюць свае вершы, варта і нам уключыцца ў працэс захавання культурнай спадчыны. Чакаю грунтоўных артыкулаў і на гэты конт.

М. БУСЕЛ.
в. Дуброва.

# Пытанні да зласлiўца

Не ведаю, як звярнуцца да другога зласліўца, ліст якога змешчаны ў «Нашым слове» ад 11—17 верасня 1991 г. Што тычыцца фармальнага боку — ці то Малашка, ці то містэр Х — не так тут ужо і важна, а вось з пункту гледжання сутнасці гэтай істоты, то відавочна, што гэта — сама нявыхаванасць, неадукаванасць, палітычная слепата і ўвогуле — хамства, калі не правакацыя. Чытаючы такія лісты з іх ізуверскімі выпадамі ў бок дэмакратычнай прэсы, спачатку неяк губляешся і пачынаеш думаць, а ці варта на іх адказваць? Але наступная думка гаворыць: «Варта!». Больш таго, хочацца яшчэ звярнуцца да іх з сякімі-такімі пытаннямі. Канкрэтна да другога зласліўца я сфармулюю іх так: «А як Вы, спадар Малашка ці містэр Х, выказалі сваё абурэнне дзеяннямі хунты?», «Дзе Вы ўголас заявілі: «Далоў хунту!»?», «Ці не спрабуеце Вы забіць клін паміж органамі прагрэсіўнага друку — «Свабодай» і «Нашым словам»?», «І як гэта Вы не забыліся на тое, каб напісаць свой ліст на беларускай мове?», «Ці не падобныя да Вас сарвалі шыльду пры ўваходзе ў ТБМ?», «Ці не маніце Вы, што Ваша сям'я выпісвала «Наша слова»? Права задаць Вам такія пытанні дае тон і падтэкст ліста, з якім Вы выставілі сябе на свет Божы.

З пажаданнямі духоўнага нараджэння
Яўген ГУЧОК,
старшы рэдактар выдавецтва «Народная асвета»,
сакратар Мінскага гарадскога ТБМ імя Ф. Скарыны.

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча*



Беларусы! Мы — вялікі народ, нас дванаццаць мільёнаў, шырока раскінуліся мы і спрадвеку жывём тут. Гэта наш край, наша старонка. Калісьці ў нас было сваё гасударства, скрозь чутно было нашу беларускую гаворку. У ёй пісалі законы, разбіралі справы па судах, вучылі ў школах, друкавалі кнігі, спраўлялі набажэнствы ў царквах ды касцёлах. І ўсе размаўлялі па-нашаму: і чыноўнікі, і папы, і паны над панамі, і вялікія князі, што правілі гасударствам.

*Максім БАГДАНОВІЧ*
*«Хто мы такія?».*

У беларускай літаратуры існавала моцная традыцыя, закладзеная, калі мець на ўвазе толькі яе навейшы перыяд, Ф. Багушэвічам, Цёткай, Я. Купалам, Я. Коласам, М. Багдановічам, А. Гаруном, М. Гарэцкім, паводле якой мастак слова — гэта прарок, вяшчун праўды і свабоды, абаронца справядлівасці, пясняр долі народнай.

Міхась МУШЫНСКІ.

*Максім БАГДАНОВІЧ*

* * *

Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!
Вір людскі скрозь заліў паясы тратуараў,
Блішчаць вокны, ліхтарні ў гары зіхацяць,
І гараць аганьком вочы змучаных твараў!

А завернеш ў завулак — ён цесны, крывы;
Цёмны шыбы глухіх, старасвецкіх будынкаў;
Між каменнямі — мох і сцяблінкі травы,
І на вежы, як круглае вока савы,
Цыферблат — пільны сведка мінулых учынкаў.

Ціша тут. Маўчаліва усталі — і сняць
Ў небе купалы, брамы, байніцы і шпіцы;
Гук хады адзінокай здалёку чуваць,
Часам мерныя ўдары звана задрыжаць
І замоўкнуць, памкнуўшы ад старай званіцы.

Ўспамяні, маё сэрца, даўнейшыя дні!
Па загаду бурмістра усе, як належа,
Зачынілі ўжо вокны; загасілі агні...
Варта вулкай прайшла... І не спім мы адны —
Я ды чорны кажан, што шнуруе ля вежы.

1911—1912

Народны дух зноў не мысліўся, не адчуваўся М. Багдановічам па-за агульначалавечым, агульнагістарычным. Адно што лічаныя дні заставаліся паэту жыць і тварыць на вышыні зноў агоранага ім шляху, ды яго ўдзячныя нашчадкі адразу ж пайшлі па ім у бязмежную даль, поўныя менавіта багдановічаўскага адчування яго вышыні і шырыні.

Мікола ГРЫНЧЫК.

Выпуск падрыхтаваў
Сяргей ПАНІЗНІК.

# НАШ БОЛЬ І СМУТАК

## (*Па старонках газеты «Дзеці і мы»*)

НЯМА аповесці больш сумнай, як аб Рамео і Джульеце... Не, ёсць! І нарадзілася яна ў нашы дні... А пачалося ўсё ў бальнічнай палаце. Бараўляны, анкалагічны дыспансер. У палату, дзе ляжала безнадзейна хворая дзяўчына, зайшлі заморскія госці. Паул-малодшы застыў каля ложка, як зачараваны. Праехаў паўсвета, а такой прыгажосці не бачыў... Было прызнанне, былі поўныя кахання позіркі. А затым перапіска.

Калі сям'я Мораў зноў прыехала ў Бараўляны, Наташа Птушко змагла ўжо падымацца з ложка. Паул тры дні не адыходзіў ад дзяўчыны. Бацькі паабяцалі забраць Наташу на лячэнне да сябе ў Нью-Йорк. Перад ад'ездам Паулу перадалі пісьмо: «Мілы Пол! Ты першы чалавек на свеце, якога я пакахала. Ты для мяне — неба і зямля...»

У хуткім часе Паул пазваніў у Дзіцячы фонд з Нью-Йорка: «Бяром Наташу на лячэнне. А пакуль пасылаем самыя лепшыя лекі». Пасылку Дзіцячы фонд атрымаў. І ў той жа дзень прыйшла вестка: Наташа памерла...

Такая вось трагічная гісторыя нашых дзён, звязаная з вынікамі Чарнобыля. Няма сумнення, што яна будзе яшчэ не раз паўторана ў музыцы, кіно, літаратуры. А пакуль самымі простымі сродкамі яе перадала газета Беларускага дзіцячага фонду «Дзеці і мы», што пачала выходзіць са студзеня гэтага года.

Газета з нумара ў нумар расказвае аб цяжкім лёсе пакалення, якое ідзе нам на змену.

Чаго вартыя хоць бы тыя дадзеныя, што прыведзены ў справаздачы з пленума Беларускага дзіцячага фонду. Так, у чарнобыльскія заложнікі залічана сёння звыш 600 тысяч дзяцей і падлеткаў, амаль 140 тысяч з якіх аднесены ў групу рызыкі. Дзеці выпрабоўваюць на сабе радыяцыю, якая перавышае нярэдка 80 кюры. «Хто і калі,— пытае газета,— возьме на сябе адказнасць за тое, што 95 % вучняў заканчваюць школу з рознымі адхіленнямі ў здароўі?» Бедаў у дзяцей столькі, што іх дарослыя сябры не паспяваюць нават выцерці слёзы ўсім, хто працягнуў да іх рукі мальбы.

Трагічны лёс і старых, і малых жыхароў нашай зямлі паўстае з хвалюючай споведзі «На чужыне — як у дамавіне», напісанай «выгнанніцай» з роднага дому Т. Мятліцкай. Пераехала яна з сям'ёй у вёску Пятрышкі Менскага раёна з-пад Хойнікаў. Атрымала тут сама і яе муж кватэру, працу, але ўсё роўна, як і ўсіх яе землякоў, цягне дадому, «быццам там вароты пірагом падпёртыя». Асабліва кранаюць радкі пра «малюпашак», у якіх хвароб болей, чым у старой бабулі. «Каб выратаваць маіх крывіначак,— піша «выгнанніца»,— я плачу за лекі ўдвая і нават утрая даражэй. Аддаю апошнія грошы. А ў выніку? Не вельмі папраўляюцца дзеці. Вось табе і чыстае ад радыяцыі паветра, і добрыя кватэры, і лекі... Позна, людцы добрыя, пераехалі мы вельмі позна. Хвароба, калі не ўморыць, то скрывіць... Мусіць, сярод перасяленцаў няма шчаслівых людзей».

Гэтакі боль душы дарослага чалавека. А што думаюць пра сябе і наваколле самі дзеці? Вось адна са споведзей, змешчаных ў газеце. Святлана С., цяжкі падлетак з Аршанскага спецразмеркавальніка, піша, што калі б яна была чараўніцай, то зрабіла б так, каб Дайва (пэўна, яе сяброўка) зноў жыла са сваімі сапраўднымі бацькамі. Затым яна зрабіла б усіх бадзяжных жывёл хатнімі. А затым яна знайшла б хлапчука, які ўкраў у яе сабаку, не, не, яна б яго не пакарала, а забрала б свайго і падарыла б яму другога. Яна зрабіла б, каб яе маці не памерла, а яе бацька не піў. Наогул, яна імкнулася б толькі дапамагаць людзям.

Вось якія яны, нашы дзеці, асуджаныя на пакуты і нягоды сённяшняй рэчаіснасцю.

У нас паўтараецца бясконца: усё лепшае — дзецям. Здаецца, як можна інакш? А перагорнем невялікую падшыўку газеты. Амаль у кожным нумары знойдзем парадаксальныя факты. Тое, што яшчэ нядаўна не пускалася на газетныя старонкі.

Узяць хоць бы фотарэпартаж з 1-й дзіцячай гарадской бальніцы Менска. Робяць там цуды — ставяць на ногі тых, на каго ў іншых клініках даўно махнулі рукой. А ў якіх умовах знаходзяцца людзі? Прама на чытачоў глядзяць са здымкаў пакутлівыя вочы дзяцей: ім нават каб паесці, няма дзе прымасціцца, сядзяць па двое на стульчыку. А пра лячэбныя кабінеты і казаць няма чаго. Усюды цесна. І гэта ў той час, калі ў горадзе пустуюць сотні і тысячы залаў у чаканні розных урачыстасцей... Не ўсе яшчэ дарослыя гатовы адмовіцца ад сваіх выгод дзеля маленства, пра што сведчаць многія факты і лічбы, якія прыводзіць газета. А на сапраўдную дабрачыннасць, такую, напрыклад, якую праявіў кардынал Глемб, здольныя наогул адзінкі. На пытанне, якое задалі яму прадстаўнікі Хрысціянскага дзіцячага фонду пра тое, якая дапамога патрэбна польскім дзецям, кардынал адказаў: «У першую чаргу дапамажыце дзецям Беларусі і Румыніі, а тады ўжо давайце возьмемся за нашы польскія праблемы...» Які вялікі сэнс у гэтых словах!

Расказваючы аб узаемаадносінах паміж бацькамі, газета не забывае і аб сродку гэтых узаемаадносін — роднай мове. Друкуюцца ў ёй матэрыялы пераважна па-беларуску, тым самым на ўласным прыкладзе выхоўваецца добры моўны густ. У той жа час і не абыходзіць нашы сённяшнія цяжкасці. Яскрава пра іх сказана ў пісьме ў рэдакцыю пасля паездкі ў Артэк Юлі Качанавай, пераможцы менскай гарадской алімпіяды па беларускай мове: «Вось што балюча. Калі да слова, размаўлялі паміж сабой кіргізы або казахі, то гутарка вялася на іх роднай мове. Беларусы ж паўсюдна — і між сабой і з іншымі дзецьмі — гавораць адно па-руску. Скажыце, чаму?..»

Ёсць у газеты і пэўныя хібы. Пэўна, не трэба было б адводзіць шмат месца сухім інструктыўным матэрыялам, статыстычным аглядам, навуковым справаздачам. Не зусім апраўданым здаецца і з'яўленне на газетных старонках матэрыялаў аб агульных вытворчых і экалагічных праблемах, не звязаных на прамую з праблемамі дзяцінства. Аднак гэтых хібаў у невялічкага рэдакцыйнага калектыву пакуль не так многа, каб рабіць нейкія абагульненні. У цэлым газета «Дзеці і мы», хоць і адчувае сябе кволым дзіцем, як пішацца ў адным з яе нумароў, але ўжо робіць цвёрдыя крокі, што ўсяляе добрыя надзеі: новае выданне абавязкова выйдзе ў людзі, спадабаецца шырокаму чытачу.

А. СІЛЯНКОЎ.

*Ёсць і такая думка*

# АДКУЛЬ «ПАГОНЯ»?

## (*Міфалагічныя вытокі сімвала*)

Адной з таямніц нашай старажытнай гісторыі з'яўляецца загадка ўзнікнення дзяржаўнага герба Вялікага Княства Літоўскага «Пагоня». У друку змяшчаліся артыкулы даследчыкаў, якія прапаноўвалі свае тэорыі паходжання сімвала-герба. Аднак у асноўным усе яны разглядаюць з'яву чыста гістарычна, не зважаюць на культуралагічны аспект праблемы. А менавіта на міфапаэтычнай аснове, на нашу думку, грунтуецца створаны народам вобраз-сімвал абаронцы людзей і зрынальніка пачвараў, справядлівага суддзі, які з'явіцца ў пэўны час на зямлю (параўнайце для прыкладу хрысціянскі сімвал Збавіцеля, што прыйдзе ў прызначаны час судзіць і помсціць). Міфалагічная свядомасць беларусаў звязвае гэты вобраз са святым Юр'ем ці святым Міколам. Часцей (найбольш сярод сялян) у ролі конніка выступае Мікола, як, напрыклад, у наступнай народнай песні:

*А ў лесе, лесе ды на верасе,*
*Там хадзіла стада коней,*
*Між тых коней белы конік,*
*(варыянт: вараны — А. В.)*
*Ніхто таго каня ні спаймае,*
*Ні спаймае, ані асядлае.*
*Абабраўся слічны паніч,*
*Слічны паніч, малады Міколка.*
*Ён таго каня і спаймае,*
*І спаймае, і асядлае...*

Міфалагізацыя белага каня звязана з узнікненнем яго культу ў далёкую агульнаіндаеўрапейскую эпоху, калі конь быў прыручаны і стаў свойскай жывёлай (канец IV— мяжа III тысячагоддзяў да н. э.). З таго часу культ, дзякуючы рассяленню індаеўрапейцаў, трапіў у міфалогію кітайцаў, казахаў, саяна-алтайцаў, фіна-ўгорцаў і народаў Каўказа. Пра гэта сведчыць індаеўрапейская тэрміналогія ў мовах гэтых народаў. Самы старажытны помнік індаеўрапейцаў «Рыгведа» тлумачыць боскае паходжанне белага каня, падоранага людзям Ашвінамі праз чалавека па імені Педу.

*Принимая многие облики, о*
*Ашвины,*
*Вы привели для Педу быстрого*
*коня,*
*Завоевывающего тысячи,*
*приносящего награды, неотразимо-*
*го,*
*Убивающего змей, достойного*
*славы победителя.*

Беларускія народныя казкі захавалі старажытны сюжэт, у якім апавядаецца пра «зялёныя лугі, запаветныя мурагі», дзе пасецца белы конь. Герой беларускай міфалогіі, які накіроўваецца змагацца са Змеем ( ці Кашчэем), абавязкова трапляе ў дрымучы лес. Там, на паляне, стаіць хатка, у якой жывуць тры сівыя дзяды (увасабленне продкаў). Яны дапамагаюць яму злавіць гэтага каня (іншы раз проста прыводзяць самі яго) і асядлаць.

Той жа старажытны індаеўрапейскі матыў можна назіраць у міфалогіі саяна-алтайцаў. Па іх уяўленню на касмічным Прадрэве, пад адной галінай якога можа схавацца вялікі табун коней, мірна пасецца чароўны скакун. Валодаць ім зможа толькі вялікі герой.

Параўнанне беларускага матыву з такімі ж у іншых міфапаэтычных традыцыях дазваляе гаварыць не толькі аб глыбокай старажытнасці сімвала, але і чысціні захавання (дзякуючы такой рысе нацыянальнага характару, як кансерватызм). Нездарма даследчыкі, аналізуючы тыя ці іншыя сімвалы і рытуалы індаеўрапейскай пары, звяртаюцца менавіта да беларускай міфалогіі.

Беларуская традыцыя захавала ўяўленні аб кані як «сусветнай жывёле» (конь увасабляў сабой Космас і асобныя яго часткі). Пра гэта сведчыць палескі рытуал спалення галавы каня на Купалле. Адпаведнік рытуалу можна знайсці толькі ў індаарыйскім помніку «Брыхадараньяка Упанішада» (самыя раннія датуюцца VIII—VI ст ст. да н. э., астатнія — больш познім часам) і кельцкім абрадзе савакуплення цара з белай кабылай, якая затым прыносілася ў ахвяру. Пэўную «касмічнасць» каня можна назіраць у свяце Ярылы (27 красавіка; пазней — Юр'еў дзень). Цырымонія звязана з ідэяй пладавітасці і ўрадлівасці.

Вось, здаецца, і ўсе тыя тыповыя і найбольш распаўсюджаныя моманты беларускай міфалогіі, звязаныя з культам каня і яго сакралізацыяй. Менавіта яны, на наш погляд, з'явіліся той асновай, на якой узнік сімвал-герб «Пагоня». Аднак уяўленне будзе няпоўным, калі мы не скажам пра самога конніка. Гэта мог быць герой міфалогіі, пра што мы ўжо сказалі. А мог быць і сам Бог, які надзяляўся народнай свядомасцю, рысамі справядлівага суддзі. Вобраз яго ўзыходзіць, па нашых меркаваннях, да найстаражытнейшага перыяду ў гісторыі чалавецтва — эпохі татэмізму. Пасрэднікам жа паміж Богам і людзьмі з'яўляўся правадыр племені, а пазней — цары, імператары і князі.

Такім чынам, дадзеныя міфапаэтычнай спадчыны нашых продкаў дазваляюць гісторыкам даць адказ на пытанне: «Адкуль імчыць «Пагоня»?». Мы ж асмелімся сцвярджаць, што сімвал-герб (прынамсі, у культуралагічным аспекце) грунтуецца на беларускай нацыянальнай аснове, а яго карані — у глыбокай агульнаіндаеўрапейскай старажытнасці.

А. ВЕКА.
в. М. Аўцюкі Калінкавіцкага раёна.

*Пісьменнік і мова*

Ігнат ДУБРОЎСКІ

# СЯБРЫ ЦІ ЧЛЕНЫ?

Уяўляю сабе магчымасць такой сцэнкі. Заходжу ў прыёмную старшыні рады Саюза пісьменнікаў і пытаю:

— Ці магу я ўбачыцца з кім-небудзь з кіраўнікоў рады?

— Усе сябры рады збіраюцца ў зале круглага стала. Пасяджэнне яшчэ не пачалося, зайдзіце туды,— адказвае сакратарка.

— Дык там жа сябры рады, а мне патрэбен хто-небудзь з самой рады.

— Сябры рады і ёсць сама рада.

— Сябры ёсць сябры, прыхільнікі рады, а мне патрэбен хто-небудзь з членаў рады.

— У нашай радзе няма членаў, а ёсць сябры,— пачынае нервавацца сакратарка.

— Няма членаў рады, значыць, няма і рады. Як жа так — рады няма, а сябры рады ёсць?!

— Ідзіце, калі ласка, да іх і разбірайцеся,— і сакратарка зноў узялася за сваю работу.

Такая сцэнка магла адбыцца і ў рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва», і ў рэдакцыі «Нашага слова» і ў іншых арганізацыях калегіяльнага кіравання.

Словы «сябра» і «член» семантычна розныя. Сябра — прыхільнік, блізкі, спачувальнік пэўнага чалавека, сям'і, арганізацыі. Член — адказны ўдзельнік калегіяльнага кіравання гаспадаркай, арганізацыяй, установай. Чым выклікана замена слова «член» на слова «сябра». Ці не вынік гэта нашай расслабленай дэмакратыі? А можа тым, што ў нашым грамадстве ніхто ні за што не адказвае? Таму ў складзе кіруючых органаў непатрэбны адказныя члены, іх замяняюць спачувальнымі сябрамі?

Слова «член» арганічна ўвайшло ў беларускую мову. Яно ўжываецца ў многіх складаных словах. Хіба можна напісаць «сябра-карэспандэнт» Акадэміі навук замест «член-карэспандэнт». Або: «сябра цела» замест «член цела», «сябраногія» замест «членістаногія». Вымаўляй, калі ласка, «сябрараздзельна» замест «членараздзельна». Хіба не адчуваецца карэнная розніца ў выразе «сябра нашай сям'і» і «член нашай сям'і».

Чытаю ў газеце такое: «Саюдзіс» з'яўляецца сябрам Беларускага Народнага Фронту». Як гэта разумець, калі слова «член» выкрэсліваецца з нашай мовы, замяняецца словам «сябра»? Ці то «Саюдзіс» арганічна ўваходзіць у склад БНФ ці з'яўляецца «спачувальнікам»?

Слова «член» ужываецца амаль ва ўсіх славянскіх мовах. У сербска-харвацкай — «члан». Член клуба — члан клуба. У польскай: член урада — член жонду, член клуба — член клюбу.

За апошнія гады вольны друк прынёс, праўдзівей, вярнуў Беларусам шмат забытых слоў, выжытых з нашай мовы русіфікацыяй. Зварот добрых слоў — справа станоўчая. Але разам з тым, гэты ж друк заносіць і «смецце». Напрыклад, слова «забастоўка», гучнае, даўно аславяненае замяняецца незразумелым большасці беларусаў словам «страйк», ад нямецкага «штрайк». У нашу мову яно занесена значна пазней, з польскай, у якой змякчана на«страйк».Слова «яўрэй», якое карэнна ўвайшло ў беларускую мову, замяняецца словам «гэбрэй». Або тое ж польскае «прасцірадла» замест беларускага «прасціна» або «пасцілка».

Пры сустрэчах з многімі вяскоўцамі я пытаў у іх, што значыць слова «страйк»? Ніхто з маіх сустрэчных не ведаў гэтага слова. Адна кемлівая цётка, мусіць, па сугучнасці здагадалася, што гэта страказа.

У замене беларускіх слоў на чужыя праглядваецца жаданне аддаліць нашу мову ад рускай? Але ці можна (і ці варта?) замяняць на нешта яшчэ такія слоы, як хлеб, дзень, неба, ты, я, народ і шмат іншых, што супадаюць? Перанос чужамоўных слоў у нашу мову без вялікай патрэбы засмечвае яе.

# Стаяў ля вытокаў пабрацімства

Адрыўны каляндар на 1991 год, выпушчаны выдавецтвам «Беларусь», у адрозненне ад традыцыйнага перакіднога, куды больш багаты на даведачна-пазнаваўчую інфармацыю, у тым ліку і на звесткі пра знакамітых пісьменнікаў. Так у ім згадваецца ўкраінскі пісьменнік Сяргей Піліпенка (у сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння) як «папулярызатар беларускай літаратуры на Украіне».

Дарэчы, гэта акалічнасць дала падставу ўключыць пра С. Піліпенку артыкул у Беларускай энцыклапедыі літаратуры і мастацтва. Яго аўтар В. Чабаненка называе асноўныя кнігі і публікацыі пісьменніка і зазначае, што С. Піліпенка быў адным з першых перакладчыкаў вершаў і баек Я. Купалы на ўкраінскую мову. Перакладаў ён і творы Ц. Гартнага, М. Чарота, З. Бядулі, К. Крапівы. Да двух выданняў баек апошняга напісаў і прадмовы. Згадваецца яго прыезд у складзе ўкраінскай дэлегацыі ў маі 1928 года на Беларусь. Сказана, што быў Піліпенка рэдактарам альманаха «Нова Білорусь», які выйшаў у 1929 годзе. На жаль, у Беларускай энцыклапедыі адсутнічае артыкул пра сам альманах.

У чым жа справа? А ў тым, што альманах гэты знаходзіўся ў «спецхране». Рассакрэцілі яго ў Дзяржаўнай бібліятэцы нядаўна. Тым больш цікава пазнаёміцца са зместам яго. Эпіграфам да альманаха сталі словы: «Яднанню братніх пралетарскіх культур Беларусі і Украіны прысвячаецца гэтае выданне». Адкрываецца «Нова Білорусь» аглядным артыкулам М. Байкова «Новая беларуская літаратура». Яе разгляд даецца паэтапна: I — «Пачатак і карэнні» («Наша Ніва», Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, М. Багдановіч), II — «1917-1927 гады», III — «Старэйшыя» (Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, З. Бядуля, М. Грамыка, А. Гурло і іншыя). Асобны раздзел М. Байкоў прысвяціў «Маладняку» (М. Чарот, М. Зарэцкі, А. Дудар, А. Александровіч, П. Трус), а таксама «Узвышшу» (К. Чорны, К. Крапіва, У. Дубоўка). Неабходна сказаць, што аўтар артыкула ў многім стаяў на пазіцыях вульгарна-сацыялагічнай крытыкі. Гэта, напрыклад, відаць па яго ацэнцы зборніка «Казкі жыцця» Я. Коласа. М. Байкоў пісаў: «Сваім зместам гэты зборнік нічым не выяўляе прыналежнасці да рэвалюцыйнай барацьбы. Без ніякай шкоды для сябе зборнік мог бы выйсці на дзесяць гадоў раней. Тут ўсе старыя падзеі з людзьмі, якія ніяк не тычацца сацыяльнай рэвалюцыі».

Знаёмячыся з раздзеламі альманаха «Паэзія» і «Проза», можна заўважыць, што пры падборцы твораў С. Піліпенка выявіў высокі мастацкі густ, уключыўшы ў іх імёны, што сёння сталі гонарам беларускай літаратуры (Александровіч, Багдановіч, Гарун, Дубоўка, Колас, Купала, Чарот і іншыя).

У раздзеле «Проза» ўкраінскі чытач пазнаёміўся з творчасцю Барашкі, Зарэцкага, Каваля, Нёманскага, Чорнага і іншых.

«Нова Білорусь», несумненна, закладвала першыя цаглінкі ў фундамент беларуска-ўкраінскіх сувязей і кантактаў савецкага перыяду. Тым большая наша ўдзячнасць Сяргею Піліпенку, пісьменніку і перакладчыку, шчыраму сябру беларускага народа.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

*Паэзіі радок чароўны*



Міхась БАШЛАКОЎ

## Крыкі шэрых гусей

Вось і зноўку прыйшла
На зямлю маю восень.
Над пустымі шляхамі
Закружыў ліставей.
Праз туман і дажджы
Зябкі вецер даносіць
Крыкі шэрых гусей,
Крыкі шэрых гусей.

Ах, як плачуць яны
Над маёю Айчынай,
Што навекі пазначана
Чорнай бядой...

Гусі, шэрыя гусі,
На далёкай чужыне
Ападзіце на травы
Горкай-горкай тугой.

У густых трыснягах
Паўнаводнага Ніла
Хай усходзіцца вецер
Ад гэтай журбы,
Плач і боль панясе
На абпаленых крылах
Над сусветам усім...
Можа заўтра нябыт?!.

О, мая Беларусь,
Дык няўжо ты сканаеш?
О, мой ціхі народ,
Жыць, павінен ты жыць...
А вакол цішыня...
Толькі ледзь далятаюць
Крыкі шэрых гусей
Праз туман і дажджы...

## Балець не перастане

Прыцярушыў сняжок
Зямлю маю,
Як рану...
Балець душа,
Балець не перастане...
Не забінтуеш шлях
Па чорным лесе,
Не ажыве
Ніколі больш
Палессе,
Счарнелае,
Як крумкача крыло...
Ах, колькі тут,
Ах, колькі тут жыло...
Мне не вярнуцца больш
У кут дзівосны,
У тыя песні,
Вечары і вёсны...
Мне не блукаць
У тых гаях,
Дубровах...
І не шаптаць
Прыгожыя там словы.

Ах, белы снег,
Такі
На чорным
Белы...
Усё вакол,
Даўно ўсё анямела...
О, першы снег,
Ты падай сёння,
Падай...
Хоць дзеці ўжо даўно
Не лепяць снежкі...
Ты падай,
Засыпай
Чарнобыльскія сцежкі...
О, белы снег,
Бінтуй зямлю,
Як рану...
Хоць так лягчэй.
Балець не перастане...

*Гартаючы старыя выданні*

# Вільня, 4(17) снежня

Вясною ў Вільні сабраліся людзі абдумаць справу, як бы адкрыць тутака унівэрсытэт, на наш вялікі край ён на гвалт патрэбны. Усе нацыі, што жывуць у Беларусі і Літве, роўна цешыліся, думаючы: будзе такі і ў нас унівэрсытэт. Але ж абрусіцельны «Окраинный союз» пачаў клапаціцца, каб унівэрсытэту не адкрывалі, бо падымецца польскі «мятеж». Прыехаў «окраинный» дэпутат, вядомы ўжо ўсім Замыслоўскі, і пацешыў нас: «Напэўна скажу вам, што унівэрсытэту ў Вільні ня будзе!» Ад такой навіны маркотна стала ўсім, хто хоча дабра гэтаму краю, дый кінулі займацца справай аб унівэрсытэце.

Сядзелі йзноў ціхенька віленцы і думалі: вышэйшая школа прапала, дык можа ўдасца нам дастаць земскае самаўпраўленьне, без якога край наш прападае, а тутэйшыя людзі розных нацый ня маюць як прыткнуць свае сілы, веды, розум да працы над палепшаньнем жыцьця Беларусі й Літвы. — Але йзноў прыехалі тры «славянафілы», і адзін спаміж іх граф Бобрінскій (дэпутат умяркована-правы), пацешыў усіх кажучы, што «земства» ў вас будзе праз 2 — 3 гады»...

Чаму ж нашаму беларускаму краю так не шанцуе? А таму, што тут сутыкаецца польская і руская справа, дый палякі з рускімі ня могуць дайсьці да ладу.

Улетку ў чэскім горадзе Празе быў зьезд славянскіх нацый. Едучы на гэты зьезд, усе казалі, што трэба, каб славяне жылі, як браты: і любіліся, і сябрыліся. На зьезьдзе думалі памірыцца й палякі з рускімі.

«Новые славянофилы» ў праграме зьезду паставілі такі пункт: вялікарусаў, беларусаў і ўкраінцаў трэба лічыць за адзін «рускі» народ, а, значыць, ніякіх беларусаў і ўкраінцаў саўсім няма на свеце! У тым жа часе «Новое Время» пісала (№ 11560, 19 траўня 1908 г.),што рускія зробяць згоду з палякамі толькі тады, калі палякі ня будуць падтрымліваць адраджэньне беларускага і ўкраінскага народаў у Расеі ды Аўстрыі. Вось чаму ані ўкраінцаў, ані нашых беларусаў на зьезьдзе не было. Паехалі туды з рускіх «акцябрысты» і «правыя», а таксама палякі, каторыя цягнуць да «правых». Затое лепшыя рускія і польскія людзі, якіх мы шануем, не згадзіліся ехаць на зьезд, дзе старшыя браты нашыя прадавалі малодшых братоў — беларусаў і ўкраінцаў, ды кожны думаў на гэтым гандлі зарабіць(...)

Вярнуўшыся дамоў, нашы тутэйшыя палякі думалі, што беларусаў ужо папраўдзе няма на сьвеце, што ў гэтым краі ёсьць толькі палякі ды рускія, — тыя самыя, з якімі яны абдымаліся ў Празе. Аж тут «Виленский Вестник» у № 1574 напісаў, што зьезд зьездам, а ўсе правы можна даць толькі палякам у Царстве Польскім, але ніколі не даваць у нашым краі... Ня ведалі нашыя палякі, што аб гэтым думаць, ды нават у Думе дэпутаты-палякі з Беларусі й Літвы разам з Польскім Колам (дзе няма ні польскіх рабочых, ні мужыкоў) прылучыліся да правых, што абяцалі завесьці ў Польшчы самаўпраўленьне і іншыя рэчы.

Толькі нядаўна прыехалі ў Вільню граф Бобрінскій, Іскріцкій і Красовскій ды акуратна растлумачылі і пацьвердзілі тое самае, што пісаў «Вил. Вестн.»: тут, казалі яны, край «литовско-русский», і таму палякам нічога ўступіць нельга! Кажучы-ж аб паляках, на зьезьдзе думалі пра Царства Польскае.

Вось і пайшлі цяпер разборы і споры паміж абрусіцелямі і польскімі газэтамі. «Вил. Вестн.» на такі спосаб гаворыць:

— Чый кій даўжэйшы? Наш! Значыць, і праўда наша! («Сила не в праве, а право в силе»). *«Kur. Lit.»* бароніцца ад гэтага кія... зьездам у Празе! Добра яшчэ, што ня Венскім трактатам!

«Вил. В.» ізноў даводзіць, што тут край «искони-русский». *«Kur. Lit.»*, які даўней лаяў беларусаў, адумаўшыся, стаў шкадаваць, што ў Празе маўчалі пра нас, і схапіўся за тое, што гэты край — беларускі, гаспадары яго — беларусы, а яны кіем на палякаў не махалі! А «Вил. В.», каб адчапіцца аб беларушчыны, крычыць: «Якія беларусы? Якая «Наша Ніва»? Раз яны ня йдуць ступа ў ступу з намі проці палякаў, дык, значыць, гэта польская інтрыга!»

Мы радзім ім прачытаць № 9 «Нашае Нівы»: там яны знайдуць дарогу, па якой ідуць беларусы. Да гэтага цяпер яшчэ скажам, што пакуль беларус спаў, ніхто пра яго не цікавіўся, але як пачаў будзіцца, дык шмат хто стаў скоса паглядаць на яго. Быў такі час, што ў Вільні ні ў вадным «истинно-польским» доме не давалі кватэру пад «Нашу Ніву», і адначасна з гэтым «истинно-русская» газэта «Окраины России» пісала, быццам «Наша Ніва» — гэта польская інтрыга...

Нягледзячы на гэта, мы йшлі і йдзем сваёй простай дарогаю, нікому не падлыньвалі, заўсягды стаялі і будзем стаяць за роўныя правы для ўсіх нацый нашага краю, за свабоднае культурна-нацыянальнае жыцьцё ўсіх.

Мы шануем вялікую рускую культуру, і яна нам патрэбная; шануем справядлівых рускіх людзей. Таксама трэба шанаваць і польскую культуру і браць ад яе ўсё карыснае для нас. Але нам ня трэба камандзераў... Для нас добры кожны. хто шчыра думае аб карысьці нашаму краю, усё роўна ці то будзе рускі, ці паляк, літовец або жыд. У Беларусі ўсе спакойна зьмесьцяцца, калі будуць у кожным шанаваць *чалавека і грамадзяніна.* А васьмімільённаму беларускаму народу няма патрэбы перакідацца на той бок ці на гэты. Калі ж «истинно-польские» і «истинно-русские» людзі, якія яшчэ нядаўна цалаваліся ў Празе, пачнуць біцца за камандзерства над намі, наш народ ад гэтага дабра не дачакаецца: «паны б'юцца, а ў мужыкоў чубы трашчаць!»

(Наша Ніва, Вільня, 4 снежня 1908 г., № 25)

# «Голас часу»

Чарговы нумар (№ 14(5) часопіса «Голас часу» адкрываецца здымкам іконы Божай Маці «Ахвяраў Чарнобыля» і заклікам да суайчыннікаў прыняць удзел у будаўніцтве ў г. Жодзіне царквы ў гонар названай іконы, якая была асвечана айцом Аляксіем Шынкевічам 26 красавіка 1986 г. на жалобным мітынгу ў Менску.

Пад рубрыкай «Нарысы па гісторыі Беларусі» Юры Весялкоўскі прапануе артыкул «Княжанне Альгерда і Кейстута». Тут жа чытачы знойдуць працяг публікацыі Ю. Свяржынскага «Язафат Кунцэвіч і яго аднадумцы» і заканчэнне нарыса Ю. Весялкоўскага «Народавольцы, Ігнат Грынявіцкі і цень К. Каліноўскага».

«Нататкі з нагоды 100-годдзя М. Багдановіча» — так назваў свой матэрыял Уладзімір Пучынскі пра першае святкаванне юбілею паэта ў Менску.

У нумары ёсць цікавая інфармацыя пра беларуска-польскую канферэнцыю гісторыкаў у Менску, прысвечаную беларуска-польскім сувязям у перыяд Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Чытачы змогуць прачытаць таксама пра святкаванне 47 гадавіны Другога Усебеларускага Кангрэса (чэрвень 1944 г., Менск) у Лондане і ў штаце Вікторыя (Аўстралія).

Свае адносіны да публікацыі айца Льва Гарошкі «Неўміручая ідэя», змешчанай у другім нумары часопіса «Унія», а таксама свой пункт погляду на ідэю уніі на Беларусі выказвае М. Гаховіч у артыкуле «Варожая ідэя». Безумоўна, увагу чытача прыцягне артыкул «Гітара, палітыка... і лірыка...» пра канцэрт вядомага беларускага барда Сяржука Сокалава-Воюша, які адбыўся ў Доме літаратара ў маі г.г.

Рэдакцыйная Калегія «Голасу часу» выказвае падзяку Беларускай Біблейскай камісіі па благаслаўленню Сінода Беларускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага патрыярхату за пераклад першай кнігі святога Евангелля паводле Мацвея на беларускую мову.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

# НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

Лепшай майстрыхай ручнога ткацтва і мастацкай вышыўкі па льняному палатну лічаць жыхары вёскі Шапялевічы Круглянскага раёна сваю аднасяльчанку, энергічную і жвавую не па гадах 76-гадовую Вольгу Пятроўну Палякову. Вытканыя ёю абрусы, пакрывалы, палавікі, вышытыя ручнікі і сурвэткі ўпрыгожваюць не толькі дом майстрыхі і кватэры яе дзяцей, але і экспазіцыі музеяў у Магілёве і Менску, выклікаюць захапленне наведвальнікаў выставаў беларускай народнай творчасці.

Фота Івана ЮДАША (БЕЛТА).



# Лякарня чараўніцы «Потахі»

**ТРЫПУТНІК ЛАНЦЭТАПАДОБНЫ. Пры ўсіх відах катараў страўнікава-кішэчнага тракту прымяняюць напар з лісця ў дозе 50—60 г. на 1 л вады. П'юць цёплым: нашча 1 шклянку, а астатняе за ўвесь дзень за 4 разы, кожны раз праз гадзіну пасля яды. Пры ўсіх памянёных хваробах, асабліва пры катары страўніка з павышанай кіслотнасцю, лічыцца найбольш карысным прымяняць лісце трыпутніку ланцэтападобнага ў сумесі з іншымі раслінамі: лісця трыпутніку — 40 г, травы святаянніку — 40 г, цынтарэю — 20 г, сушаніцы багнавай — 40 г, кораня аеру — 10 г, травы перцавай мяты — 10 г, спарышу — 20 г, кветак крываўніку — 15 г, насення кмены — 6 г; 40 г гэтай сумесі заліваюць 1 л кіпетню і ў закрытым посудзе настойваюць цэлую ноч; выпіваюць нашча 1 шклянку, а астатняе за 4 разы, кожны раз праз гадзіну пасля яды.**

**ТРЫПУТНІК: ВЯЛІКІ І СЯРЭДНІ. Папулярная расліна. Прыкладаюць да ран, скул, парэзаў і болек. Парашок з зерня гэтых трыпутнікаў прымяняюць пры паносах, катарах кішок і нават дызентэрыі. Доза: па 1 г парашку 4 разы ў дзень. Гэта адзін з самых лепшых сродкаў у такіх выпадках.**

*Калі баліць жывот пасля таго, як «вельмі шмат чаго з'еў», трэба, каб хто добра яго памяў, гаворачы: «Гэта табе за тое, што не маеш меры ды ў сябе веры».* (Нікіфароўскі).

**ШЫПШЫНА САБАЧАЯ. Плады шыпшыны разам з зернем напараваюць у вадзе (40—50 пладоў на 1 л вады) і, захоўваючы пэўную дыету, прымаюць пры язве страўніка і дванаццаціперснай кішкі нават з крывацёкамі. Тое ж самае пры катары страўніка з паніжанай страўнікавай сакрэцыяй, пры розных формах малакроўя.**

**Водны настой шыпшыны прымаюць пры захворванні нырак, мачавога пузыра і печані, а асабліва — пры каменных хваробах гэтых органаў, а таксама пры ўсіх захворваннях печані і жоўцевых шляхоў.**

**Сярод народа папулярная таксама настойка з пладоў шыпшыны на гарэлцы. Яе рыхтуюць так: 1 шклянку падсушаных (калі свежыя) або дробна парэзаных (калі сухія) пладоў шыпшыны змешваюць з 1—1,5 шклянкі цукру пяску, заліваюць 3 шклянкамі 70° гарэлкі, ставяць на 5 дзён на сонца; на 6-ы дзень даліваюць яшчэ 2—3 шклянкамі 40° гарэлкі і зноў ставяць пад сонечныя промні на 5 дзён і на 10-ы дзень працэджваюць, адціскаючы злёгку ад пладоў. П'юць па адной чарцы (грамаў 15) два разы ў дзень пасля яды.**

**Лічаць у народзе, што напар лісця шыпшыны сабачай як чай вельмі добра дзейнічае на страўнік: паляпшае яго маторную функцыю, супакойвае боль у страўніку. Пры гэтым кладуць грэлку на вобласць страўніка. Лічаць, што такі ж чай пры паносах памяншае колькасць пазываў на стул і садзейнічае, як гавораць у народзе, «абясшкоджванню газаў».**

**Адвар каранёў шыпшыны лічыцца ў народзе надзейным сродкам, які растварае ўсялякія камяні ў арганізме.**

*Людзі кажуць*

## МАТЭРЫЯЛЫ ПА ТАПАНІМІІ І ГІДРАНІМІІ МІНШЧЫНЫ

*(Працяг. Пачатак у №№ 31—33)*

*Сёлішча* — назва вёскі.

Як кажуць людзі, старцы, што хадзілі па свеце, выэрашылі заснаваць сваё паселішча на гэтых ўрадлівых землях,— «аселі».

*Стáрцавічы* — назва вёскі, цяпер — *Знамя*

І гэту вёску, кажуць людзі, залажылі старцы, што не мелі свайго прыстанішча.

*Гасцінец* — дарога з вёскі Барок на Слуцк.

Лічыцца, што па гэтай дарозе ездзілі толькі багатыя людзі (шляхта), вазілі з кірмашоў гасцінцы.

*Хўтар* — назва поля. З ім звязана такая легенда. Адзін чалавек выйшаў вясной у поле араць і сказаў: «Вялік дзень» (хацеў узараць усё поле). За ім пайшлі куры, кот, сабака — уся гаспадарка. І як ішлі, так і ператвараліся ў камяні, засталіся ляжаць.

Калі людзі спрабавалі прыбраць ці білі па іх, то паказваліся кропелькі крыві.

*Граббýка* — так называлася дарога, што ішла на Клешаў ад вёскі Барок, таму што ўздоўж яе раслі вялікія грабы.

*Забíбічы* — назва дарогі на вёску Лапацічы з вёскі Барок. Дарога завецца так таму, што некалі на ёй забілі чалавека.

Запісала *Лілія Ражко.*

*Балóтчыцы* — назва вёскі, вакол якой адны балоты.

*Грэск* — назва вёскі.

Звязана з назвай ракі Арэсы, што працякае каля вёскі.

*Дзюдзева* — даўнейшая назва вёскі, цяпер Маяк.

Людзі кажуць, што назва пайшла ад слова «дзюдзя» (свінчо). Такую мянушку насіў адзін з мясцовых жыхароў.

*Замóсце* — назва вёскі, што знаходзіцца «за мостам».

*Камарóўка* — назва вёскі, якая стаяла ў балоце. Налічвала 22 двары. На гэтым месцы засталася хата, у якой жыве адзінокі стары.

*Канюхí* — назва вёскі.

У гэтай вёсцы доўгі час быў размешчаны ваенны кавалерыйскі полк. А дзе коні, там і канюхі.

*Клёшава* — назва вёскі.

Назва ў гонар Кляшэвіча, які лічыцца яе заснавальнікам.

*Мýсічы* — назва вёскі.

Там жыў памешчык Мусічэнка. Ён быў злосны чалавек і прымушаў людзей да працы. Народ павінен быў рабіць з цямна да цямна — «мусіў» рабіць.

*Пцíчыя гóры* — назва пасёлка, які размешчаны на ўзвышшы. Зімой сюды злятаецца шмат птушак.

*Хранóва* — даўнейшая назва вёскі, цяпер — *Ветка.*

*Шулякí* — назва вёскі.

У гэтай вёсцы вяліся каршуны, якіх у народзе завуць шулякамі. Адсюль і назва вёскі. І цяпер там шмат каршуноў.

*Пóле Задзí* — апошняе поле ў брыгадзе, гэта значыць задняе.

*Поле Ляскі.*

Раней там быў невялікі лес, а затым яго выкарчавалі. І цяпер тое поле называецца *Ляскі.*

*Поле Ніўкí.*

Гэтае поле было размеркавана на ніўкі, якімі карысталіся людзі.

*Вялíкае Пóле* — назва лесу.

Раней там было вялікае поле і маленькі лапік лесу. А затым усю мясцовасць засадзілі лесам, які назвалі *Вялікае Поле.*

*Поле Княжнóе.*

Калісьці па гэтым полі праязджаў князь і там абедаў.

*Бáбіна гарá* — скрыжаванне дарог.

Людзі гавораць, што там раней быццам бы жыла адна баба. Калі яна памерла, хату знеслі, а тое месца пачалі называць Бабіна гара.

Запісала *Таццяна Сыцько.*

### НЯСВІЖСКІ РАЕН

*Хадáтавічы* — назва вёскі.

Там некалі жылі хадакі — людзі, якія хадзілі жабраваць.

*Цыгáн* — назва лесу.

Лес вельмі цёмны і густы. Калі прыязджалі цыгане, яны заўсёды там спыняліся.

Запісала *Алена Толсцік.*

# Адказ на крыжаванку, змешчаную ў № 32

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1. Антыква. 3. Менада. 5. Кроква. 7. Тор. 8. Лад. 9. «Алеся». 11. Піхта. 13. Неф. 14. Клець. 15. Эпіка. 16. Блок. 17. Кутас. 19. Жук. 21. Махры. 22. Санет. 23. Шыпшына. 25. Нарман. 26. Актава. 27. Трактат.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 1. Акант. 2. Акорд. 3. Менеск. 4. Айрэн. 5. Калаф. 6. Арахна. 9. Астэізм. 10. Ягелоны. 11. Плінтус. 12. Анапест. 16. Бахцін. 18. Саната. 19. Жупан. 20. Крыга. 23. Шамот. 24. Актэт.

*І смех і грэх*

# Дыялогі на вясковай лаўцы



— Аніяк не магу даўмецца, Марыля, чаго не хапала етым гэчэкістам. Пры такіх мейсцах і грашах людзі боўталіся...

— Ты, Ганна, як дзіця малое. Век, лічы, звекавала, а да скутку не дойдзеш. Кумекай во. У драпежніка спыталі: па што, воўча, ідзеш? То ведаеш, што ён адказаў? Па астатняе. Як ні кажы, былі чапісты не на кані, а пад канём, хоць Гарбачоў іх і высока паднаў.

— Паднаў то ён высока, а знізу не падпёр.

* * *

— Ці чулі, бабкі? Міхасёва дзеўка за такога брыдкага замуж ідзе. Нейкі доўгі, як смык!

— Доўгі — то нічога. Але казалі, што на адно вока не дабачвае, а на другое — сляпы. Перабірала, перабірала...

— Наперабіралася: з гурту выбрала кýрту.

— Не білі б бабы: жаба на языку не спячэцца. Бачыла на свае вочы: ніштаваты хлопец. А потым, няхай сабе мужык, як шкарпэтка, абы жонка была, як кветка.

* * *

— Кажуць, Алена, увесну ў вашу брыгаду вучанага агранома прыслалі. То мо што добрае вырасла сёлета?

— Дзе ты бачыла, Анютка! Няма чым пахваліцца. Ані чым! Каб якога спецыяліста прыслалі, а то прыйшоў чалавек з інсцітута. Што ён панімаець?..



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.254 паасобнікі. Зак. 2463. Індэкс 74975.